WWW.BAJ.BY

ЭЛЕКТРОННЫ БЮЛЕТЭНЬ

# СМІ Ў БЕЛАРУСІ

№ 1 (57)

2019



## СПЕЦВЫПУСК

# Вынікі 2018 года ў лічбах

# Сітуацыя ў галіне СМІ ў лістападзе–снежні 2018 г.

Сярод асноўных падзеяў апошніх месяцаў 2018 г. у галіне СМІ ў Беларусі можна вылучыць:

- **спыненне крымінальнага пераследу 14 з 15 журналістаў, якія абвінавачваліся па «справе БЕЛТА», і працяг крымінальнай справы ў дачыненні да галоўнага рэдактара партала TUT.BY Марыны Золатавай;**
- **выкарыстанне заканадаўства пра процідзеянне экстрэмізму для прыцягнення да адказнасці за допісы ў сацыяльных сетках;**
- **працяг пераследу журналістаў-фрылансераў за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі Міністэрства замежных спраў;**
- **уступленне ў законную сілу папраўак у заканадаўства пра СМІ, у тым ліку тых папраўак, якія ўводзяць абавязковую ідэнтыфікацыю каментатараў на сайтах і форумах;**
- **павелічэнне бюджэтнага фінансавання дзяржаўных СМІ.**

# «Справа БелТА»

У канцы 2018 г. галоўнаму рэдактару вядучага беларускага інтэрнэт-партала TUT.BY Марыне Золатавай было двойчы адмоўлена ў задавальненні хадайніцтваў пра спыненне крымінальнага пераследу па «справе БелТА».

Марына Золатава застаецца апошняй абвінавачанай па гэтай справе. Галоўнаму рэдактару TUT.BY ставяць у віну бяздзеянне пасадовай асобы (ч. 2 арт. 425 Крымінальнага кодэкса, санкцыя прадугледжвае пакаранне ад штрафу да 5 гадоў пазбаўлення волі). Суд прызначаны на 12 лютага 2019 г.



Фото Дмитрия Брушко, TUT.BY

Астатнія 14 супрацоўнікаў розных СМІ, якія мелі статус абвінавачаных па справе, вызваленыя ад крымінальнай адказнасці з прыцягненнем да адміністрацыйнай у выглядзе штрафу. Для спынення крымінальнага пераследу журналісты былі абавязаныя пакрыць прад'яўленую ім страту ў памеры ад 3 да 17 тысяч рублёў (прыблізна 1,5–8,5 тыс. долараў ЗША).

*Як нагадвае TUT.BY, «7 жніўня ў офісах кампаніяў TUT.BY і БелаПАН прайшлі вобшукі і затрыманні. Былі затрыманыя*

*галоўны рэдактар TUT.BY Марына Золатава, рэдактары партала Ганна Калтыгіна, Галіна Уласік і Ганна Ермачонак, галоўны рэдактар БелаПАН Ірына Леўшына і міжнародны аглядальнік інфармагенцыі Таццяна Каравянкова, уласны карэспандэнт «Нямецкай хвалі» Паўлюк Быкоўскі і рэдактар інтэрнэт-сайта газеты «Беларусы і рынак» Аляксей Жукаў. Усе яны правялі па некалькі сутак у ізалятары часовага ўтрымання». Журналістаў і рэдакцыі падтрымалі Еўразвяз, Рада Еўропы, ЗША, АБСЕ, а таксама беларускія і міжнародныя праваабарончыя і журналісцкія арганізацыі.*

## Выкарыстанне заканадаўства «супраць экстрэмізму» для абмежавання свабоды выказвання

**У канцы 2018 г. было зафіксавана некалькі выпадкаў прыцягнення журналістаў і актывістаў да адміністрацыйнай адказнасці за публікацыі ў сацыяльных сетках. Падставай для гэтага называўся арт. 17.11 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях, які ўстанаўлівае адказнасць за распаўсюд інфармацыйнай прадукцыі, якая ўтрымлівае заклікі да экстрэмісцкай дзейнасці ці прапагандуе такую дзейнасць.**


Фота: Ольга Комягина, TUT.BY

Журналіст-фрылансер Аляксандр Дзянісаў быў аштрафаваны на 612,5 беларускіх рублёў за рэпост двух відэа пра ўдзел брэсцкіх анархістаў у леташняй пратэстнай акцыі «Марш дармаедаў».

Аляксандр Горбач і Мікалай Дзядок былі аштрафаваныя за размяшчэнне ў






сацсетках матэрыялаў, якія асуджаюць неанацызм. Фармальнай нагодай для прыцягнення да адказнасці ў абодвух выпадках сталі фотавыявы ў крытычных матэрыялах сімвалаў, прызнаных экстрэмісцкімі. Так, М. Дзядок быў аштрафаваны за пост, у якім асуджаў фатаграфаванне вядомых ў Беларусі асобаў з чальцамі групіроўкі, эмблема якой прызнаная ў Беларусі экстрэмісцкай.

## Штрафы за супрацоўніцтва з замежнымі медыя

**Працягваўся пераслед журналістаў-фрылансераў за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі Міністэрства замежных спраў. Суды штрафавалі журналістаў на падставе ч. 2 арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях.**

→ *Частка 2 арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях прадугледжвае адказнасць за*

*незаконны выраб і/ці распаўсюд прадукцыі СМІ. На думку БАЖ, журналісты не могуць прыцягвацца да адказнасці па гэтым артыкуле, паколькі суб'ектам адказнасці па ім з'яўляюцца не журналісты, а рэдакцыі СМІ.*

За лістапад–снежань 2018 г. журналісты-фрылансеры былі аштрафаваныя за супрацоўніцтва з замежнымі медыя 23 разы. Усяго за год журналісты прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасці па гэтым артыкуле 118 разоў (што больш, чым за чатыры папярэднія гады, разам узятыя). Агульная сума штрафаў перавысіла 100 тыс. беларускіх рублёў (каля 50 тыс. долараў ЗША).

У 2018 годзе ў абсалютнай большасці выпадкаў перасьледваліся журналісты, якія супрацоўнічаюць з тэлеканалам «Белсат». «Белсат» уваходзіць у структуру Польскага тэлебачання, але пазіцыянуе сябе як першы незалежны тэлеканал Беларусі.



# Уступленне ў сілу зменаў у заканадаўства ў галіне СМІ

**1 снежня 2018 г. набылі сілу змены ў заканадаўства ў галіне СМІ, якія ўзмацняюць дзяржаўны кантроль за беларускім сегментам інтэрнэта.**

Закон, у прыватнасці:

- уводзіць добраахвотную рэгістрацыю інтэрнэт-рэсурсаў у якасці СМІ, аднак захоўвае неабгрунтавана складаны дазвольны парадак гэтай рэгістрацыі;
- пазбаўляе інтэрнэт-рэсурсы, якія не змаглі прайсці бар'ер рэгістрацыі, правоў СМІ, а іх карэспандэнтаў – журналісцкага статусу; пры гэтым распаўсюджвае на іх усе меры адказнасці, прадугледжаныя Законам аб СМІ;
- захоўвае пазасудовы парадак блакіроўкі інтэрнэт-рэсурсаў Міністэрствам інфармацыі і ўводзіць дадатковыя падставы для гэтага;
- абавязвае інтэрнэт-ресурсы ідэнтыфікаваць каментатараў сваіх матэрыялаў.



# Павелічэнне фінансавання дзяржаўных медыя

**30 снежня 2018 г. быў падпісаны закон «Аб рэспубліканскім бюджэце на 2019 г.». У адпаведнасці з ім на фінансаванне дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі ў 2019 г. вылучаецца 151 211 151 руб. (каля 75 млн. долараў ЗША).**




Гэта амаль на траціну больш, чым у папярэднія гады. Вылучэнне сродкаў адбываецца на пазаконкурснай аснове.

# Вынікі 2018 года ў лічбах

**15** журналістаў былі прыцягнутыя ў якасці абвінавачаных па “справе БелТА”

**14 МЕСЯЦАЎ** правялі пад вартай да вынясення прысуду фігуранты “справы рэгнумаўцаў” па абвінавачанні ў распальванні нацыянальнай і іншай сацыяльнай варажнечы ці розні

**10** затрыманняў, якія завяршыліся заключэннем журналістаў пад варту на тэрмін да 3 сутак

**26**ператрусаў у кватэрах журналістаў, блогераў і рэдакцыях СМІ

### Затрыманні журналістаў



## Штрафы журналістам па арт. 22.9 КаАП




## Выдаткі з дзяржаўнага бюджэту на падтрымку СМІ



**43 тыс. еўра** агульная сума штрафаў журналістам за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі

**118** штрафаў журналістам-фрылансерам за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі

**155** месца Беларусі (са 180-ці) у рэйтынгу свабоды прэсы “Рэпарцёраў без межаў”



